АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

16 — 22 ЛІПЕНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№29 (221)

МАЛАДЗЕЧНА

## Забаронены продаж малочных прадуктаў

З 18 ліпеня распараджэннем раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі забаронены продаж малочнай прадукцыі на калгасным рынку – такі гандаль павінен весціся толькі ў закрытых памяшканнях.

Адновіцца продаж малака, смятаны, тварагу, масла толькі тады, калі будзе пабудаваны спецыяльны павільён. А пакуль гандляроў малочнай прадукцыяй запрашае "Маладзечанскі кірмаш". Галоўны дзяржаўны санітарны ўрач раёна **Віктар Белік** зазначае, што падчас спякоты выпадкаў атручвання няякаснымі малочнымі прадуктамі не зарэгістравана.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Кінолагі будуць на Алімпіядзе?

На базе Смаргонскага пагранічнага атрада прайшоў трохдзённы семінар–практыкум кінолагаў краіны. Удзел у ім узялі больш за трыццаць чалавек – начальнікі кіналагічных службаў сілавых міністэрстваў і ведамстваў, старшыні кіналагічных таварыстваў, спартсмены–кінолагі Мінска, Гомеля, Полацка, Оршы, Масквы.

На мэце стаяла выпрацоўка адзіных падыходаў да далейшага развіцця кіналогіі ў Беларусі. Прызнана неабходным аб'яднанне ўсіх спецыялістаў службы сабак і спартсменаў–кінолагаў у асацыяцыю.

Старшыня расійскай Федэрацыі кіналагічнага спорту **Ю. Асташанка**, які браў удзел у семінары, гаворыць, што ў беларускіх кінолагаў ёсць усе перадумовы для паспяховага выступлення на міжнароднай арэне.

Для ўдзелу ў адкрытым першынстве Расіі па двухборстве ў каманду пагранічнікаў уключаны прадстаўнікі Смаргонскага, Полацкага і Лідскага атрадаў.

*Аляксандр ЧУПРЫЯНАЎ.*

АСТРАВЕЦ

## Ягады і нарыхтоўшчыкі

Мясцовы лясгас заключыў кантракт на пастаўку чарніц і суніц адразу з дзвюма мінскімі фірмамі: "Эрніс" і "Белэк", але справы з нарыхтоўкай пайшлі не так, як хацелася б абодвум бакам. За некалькі дзён нарыхтавана крыху больш за 150 кілаграмаў суніц, за якія лясгас плаціць па 500 тысяч рублёў.

Грошы, па сённяшнім часе, немалыя, але адсутнасць актыўнасці нарыхтоўшчыкаў тлумачыцца не фінансамі, а тым, што ў лесе няма ягад, як у мінулыя гады.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Масква і маладзечанская вада

Маскоўскі інстытут курарталогіі і лячэбных мінеральных вод мінеральную ваду "Маладзечанская" прызнаў адной з лепшых з прадстаўленых Беларуссю.

Свідравіна 400 метраў глыбінёй знаходзіцца на тэрыторыі піўзавода. За змену выходзіць 3600 літровых бутэлек і "паўтарачак".

Летась безалкагольныя напіткі Маладзечанскага піўзавода атрымалі бронзавы медаль на 5 Міжнародным конкурсе дэгустацыі "Напіткі–98 бістро" у Мінску.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Пра ветэранаў

На заводзе аптычнага станкабудавання вызначана, што цяпер ветэраны вытворчасці нароўні з работнікамі будуць карыстацца паслугамі медпункта і зубаўрачэбнага кабінета, непрацуючым ветэранам па іх заяўках раз у год будзе выдзяляцца грузавы аўтатранспарт з аплатай у палавіну кошту, а ветэранам вайны, воінам–інтэрнацыяналістам і інвалідам – бясплатна.

Ветэранская арганізацыя будзе мець сваіх прадстаўнікоў у прафкоме і савеце аб'яднання. Усім непрацуючым ветэранам пры дасягненні 65 гадоў мужчынам і 60 гадоў – жанчынам, а далей праз пяць гадоў, пачынаючы з сёлетняга, будзе выплачвацца грашовае ўзнагароджанне ў памеры ад 0,5 да 1 акладу па займаемай раней пасадзе ці тарыфнай стаўцы.

Для арганізацыі выдзелена асобнае памяшканне.

*Павел МАКЛЮК.*

МІНСК

## «Басовішча-99»

16—17 ліпеня наў мястэчку Гарадок Беластоцкага ваяводства (Рэспубліка Польшча) адбудзецца 10-ы юбілейны фестываль музыкі маладой Беларусі «Басовішча-99». У ім возьмуць удзел вядучыя беларускія рок-гурты «NRM», «Крама», «Уліс», «Бонда», «Палац»; маладыя каманды «Мясцовы час», «Зьніч», «DEVIATION» і іншыя. Выступяць і маладыя польскія музыканты. Арганізавала фестываль Беларускае аб'яднанне студэнтаў Польшчы.

Канцэрты пройдуць на адкрытых пляцоўках, а госці і ўдзельнікі гэтага беларуска-польскага «вудстока» будуць жыць, у асноўным, у палатках. Планецца прыезд соцень гасцей з Беларусі.

Адзін з арганізатараў акцыі, кіраўнік аб'яднання «Беларуская музычная альтэрнаціва» **Віталь Супрановіч** гаворыць, што выезд для выступленняў у суседнюю краіну цяперашнім часам набывае, апрача культурнага, яшчэ і сімвалічнае значэнне. Ён мае намер шырока расказаць прадстаўнікам музычна-культурнай грамадскасці аб «бязмежжы», якое існуе вакол альтэрнатыўнай беларускай рок-музыкі.

*Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.*



ФЕСТЫВАЛІ

# «Адна зямля» сцірае межы






Гран–пры першага фестывалю «Адна зямля» атрымаў маладзечанец Дзмітрый Мінько.
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*МАЛАДЗЕЧНА. Аднайменная рубрыка "Рэгіянальнай газеты" стала назвай рэгіянальнага фестывалю выканаўцаў эстраднай песні. А сама газета — адным з арганізатараў гэтага мерапрыемства. Прайшоў фестываль у мінулыя выхадныя ў пасёлку Чысць.*

### Рыгор Сарока ад радасці не падскочыў, але і не сумаваў

Выканаўцы спаборнічалі ў двух узроставых групах. У малодшую (да 20 год) увайшлі прадстаўнікі Маладзечаншчыны – **Юля Іванчык, Дзяніс Ламан, Крысціна Хадзько, Міхаіл Снежка** і Валожыншчыны – **Юля Лінік, Святлана Пушкарова, Марына Станкевіч, Анастасія Пятроўская**, а таксама Ашмяншчыны – **Наталля Місуна, Аксана Юркантовіч, Аксана Тарнацкая, Людміла Сінкевіч.**

Пасля выступлення малодшай групы журы доўга і цяжка вызначала лепшых. Прагучала думка "карыстацца рэгіянальнай палітыкай":

– Трэба, каб прадстаўнікі кожнага раёна ўвайшлі ў тройку лепшых. Інакш цяжка будзе разлічваць за выдаткаваныя для паездкі на фестываль бюджэтныя грошы.

Праўда, ад такой пазіцыі адразу адмовіліся. Чыноўніцкі падыход з творчым не павінен сумяшчацца – з гэтым згадзіліся ўсе "журысты" і арганізатары. Паколькі не было аднадушнасці ў журы, лепшыя вызначаліся па матэматычным прынцыпе: складаліся балы, пастаўленыя кожнаму выканаўцу.

– Не скажу, што я падскочыў ад радасці, калі мяне запрасілі старшынёй журы на фестываль, – гаворыць дырэктар Маладзечанскага музвучылішча **Рыгор Сарока**. – Бывае, адчуваеш сорам, калі глядзіш выступленні выканаўцаў. А трэба не толькі іх размяркоўваць па месцах, а яшчэ нешта і ім гаварыць, і гледачам. Сёння мне даволі лёгка. Пасля выступлення "малодшых" я адчуў, што з іх выбярэм пераможцаў. А бывае і так, што няма каму і першае месца даць.

Па другой узроставай групе (пасля 20 год) усё адразу было відавочна. Сярод пяці ўдзельнікаў (**Алена Мечыслаўская** – Ашмяны, **Дзмітрый Мінько, Алеся Кульша** – Маладзечна, **Уладзімір Данчанка, Мікалай Пратасевіч** – Валожын) выдзяліўся гаспадары. Загадчыца аддзела культуры Ашмянскага райвыканкома **Галіна Балінская** выказалася катэгарычна:

– Маладзечанцу Дзмітрыю Мінько на рэгіянальным фестывалі няма чаго рабіць. Ён ужо гатовы выступаць на прафесійнай сцэне.

*Працяг тэмы на 2–й стар.*

СТЫХІЯ

## Ураган не пашкадаваў і святыню



Касцёл у Вялікіх Свіранках.
ФОТА І. ПЕТРЫКА.

АСТРАВЕЦ. Спякотнае надвор'е, што ўсталявалася ад пачатку лета, нічога страшнага не абяцала і ў сераду, 7–га. Аднак ураган, што ўзняўся ў другой палове дня, не спраўдзіў прагнозы нашых і сіноптыкаў. Метэастанцыя ў Ашмянах, з–за адсутнасці абсталявання на такія ўраганы, была не ў стане папярэдзіць насельніцтва.

Моцны вецер з даждом прайшоўся па тэрыторыі Кямелішскага, Спондаўскага і Міхалішскага сельсаветаў, пакідаючы пасля сябе разбураныя дамы, пабудовы, фермы, збожжасховішчы.

*Працяг тэмы на 2–й стар.*

ЛЕТА

## Піва няма!

АСТРАВЕЦ. Гэтым летам паліцы астравецкіх крамаў ніколі не былі багатыя на розныя гатункі піва. Звычайна ў продажы знаходзіліся два–тры "Лідскага" і адзін "Крыніцы" ці "Аліварыі". Апошні тыдзень нават такога асартыменту аматары піва не назіралі: адзін гатунак піва, які выстаўляўся на продаж, імгненна знікаў.

Напачатку тыдня піва ў астравецкіх крамах знікла. Калі яно з'явіцца, пакуль невядома, бо на яго павышаны попыт у Лідзе ды Мінску.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*




Майстар цэха безалкагольных напіткаў Маладзечанскага піўзавода Святлана Курыловіч раіць астраўчанам пераходзіць на маладзечанскі квас.
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ПАСАДЫ

# Пётр Кулеш зарэкамендаваў сябе на Маладзечаншчыне сталым кіраўніком

*МАЛАДЗЕЧНА. У мясцовым райвыканкоме з дня на дзень чакаецца змена старшыні. Яшчэ месяцы з два таму цяперашні старшыня Пётр Кулеш падаў у аблвыканком заяву з просьбай аб вызваленні з пасады па стане здароўя. У райвыканком прыязджаў адзін з намеснікаў старшыні аблвыканкома Мікалая Дамашкевіча.*



*Пётр Кулеш на традыцыйным свяце ў Вязынцы.*

ФОТА МІХАІЛА АСАЕВІЧА.

Праглядаліся кандыдаты на пасаду. Сярод кандыдатаў былі старшыня калгаса "Яхімоўшчына" Генадзь Бажко, старшыня калектыўнай гаспадаркі "Палачаны" Аляксандр Мучынскі, старшыня калгаса "Краснае" Аркадзь Луновіч.

На апошнім пасяджэнні аблвыканкома была выказаная падзяка Пятру Куляшу і адзначана, што ён вельмі ўмелы кіраўнік.

У работнікаў райвыканкома з'явілася інфармацыя, што старшынёй Маладзечанскага райвыканкома, магчыма, стане нехта са Слуцка. А Пётр Кулеш гатовы ўзначаліць аб'яднанне "Маладзечнаміжрайгаз".

***Аддзел інфамацыі.***

СТЫХІЯ

# Ураган...

*Пачатак тэмы на 1–2 стар.*

Аддзел сацыяльнай абароны акажа грашовую дапамогу ў памеры 5 мільёнаў рублёў на кожную сям'ю, а раённае аддзяленне "Белдзяржстраху" пачне выплаты па застрахаваных дамах.

МАЛАДЗЕЧНА. 22 сельгасаб'екты пашкоджаныя тыдзень таму падчас моцнага ветру і дажджу. Найбольш пацярпеў калгас "Кастрычнік", кожны аб'ект якога меў пашкоджанне. Толькі шыферу было сарвана каля 2 тысяч лістоў.

А вось дамам вяскоўцаў, можна сказаць, пашчасціла. Масавага пашкоджання не было. Хіба што ў Вязаўцы Цюрлёўскага сельсавета ад урагану пацярпелі 3 дамы.

Не пашчасціць гаспадарам 32 сельгасучасткаў, засаджаных бульбай. Па гэтай тэрыторыі будуць весціся аднаўленчыя работы ліній электраперадач, што цягнуцца праз Раёўшчыну.

ВІЛЕЙКА. Тут сітуацыя была больш–менш спакойная. Калі не лічыць, што маланка ўдарыла ў жылы дом вёскі Любкі Іжанскага сельсавета. Дом патушылі. У саўгасе "Вілія" з фермы сарвала каля 300 лістоў шыферу. У вёсцы Журыхі Любанскага сельсавета пашкоджаныя дахі 10 дамоў.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ, Аддзел інфармацыі.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 7.07 | 14.07 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 550 | **550** |
| Кілбаса с/в | 1 кг | – | – |
| Сасіскі «Мінскія» | 1 кг | – | **650** |
| Селядзец салёны | 1 кг | – | – |
| Рыс | 1 кг | 210 | **215** |
| Цукар | 1 кг | 145 | **150** |
| Грэчка | 1 кг | 280 | **275** |
| Алей | 1 л | 350 | **380** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 170 | **160** |
| Маянэз | 250 г | 70 | **72** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 470 | **470** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 140 | **140** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 120 | **120** |
| Лімоны | 1кг | – | **500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 180 | **150** |
| Масла | 1 кг | 500 | **500** |
| Тварог | 1 кг | 150 | **150** |
| Малако | 1,5 л | 60 | **60** |
| Бульба маладая | 1 кг | 200 | **120–150** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 180 | **180** |

## На рынку ёсць ягады і іншае...

| | | |
|---|---|---|
| парэчкі чорныя | 5л | 1900 тыс. руб. |
| парэчкі чырвоныя | 5л | 400–450 |
| клубніцы | 5л | – |
| чарніцы | 5л | 2500 |
| вішня | 5л | 2500 |
| маліна | 5л | 2500 |
| агрэст | 5л | 800 |
| кавун | 1кг | 350 |
| морква | пучок | 50-100 |
| агуркі | 1 кг | 50–60 |
| памідоры | 1 кг | 360 |

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Рабаўнік з чыгункі

МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую нядзелю памочнік дзяжурнага АУС на транспарце прапаршчык міліцыі А. Богдан правяраў нясенне службы міліцыянерамі ППСМ на чыгуначным вакзале станцыі Маладзечна. Да яго звярнулася маладая жанчына: колькі хвілін таму на пераездзе ў раёне вуліцы Прытыцкага наглядна знаёмы мужчына сарваў з яе шыі залаты ланцужок.

Устанавіўшы прыкметы злачынцы, прапаршчык Богдан неадкладна арыентазаў супрацоўнікаў і ў найбольш верагодныя месцы адыходу рабаўніка накіраваў аператыўную групу. На вуліцы 17–га верасня малодшы оперупаўнаважаны аддзела па эканамічнай злачыннасці Маладзечанскага АУСТ старшына міліцыі Э. Жызнеўскі па прыкметах затрымаў падазронага мужчыну і даставіў яго ў дзяжурную часць аддзела. Пры асабістым доглядзе ў падазронага ў кішэні і знайшлі ўкрадзены ланцужок.

Рабаўніком з вялікай дарогі (з чыгункі) аказаўся раней судзімы грамадзянін. Узбуджаная крымінальная справа.

***Сяргей ВАСІЛЕВІЧ,***
***начальнік аддзялення грамадскай бяспекі і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.***

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Тэлевізар за дзіцё

ВАЛОЖЫН. Штогод дэмаграфічная сітуацыя тут пагаршаецца. Кіраўніцтва даччынага прадпрыемства «Лукойл Валожын» вырашыла матэрыяльна стымуляваць нараджэнне дзяцей у сваіх работнікаў.

Так, вадзіцелю **Івану Казаку** з вёскі Гародзькі з нагоды нараджэння ў яго сям"і хлопчыка (чацвертае дзіця) падарылі каляровы тэлевізар за 60 мільёнаў рублёў.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

# Адзінокіх большае

СМАРГОНЬ. Амаль 7,5 мільярда рублёў прадугледжваецца накіраваць з бюджэту раёна на развіццё сеткі аддзяленняў сацыяльнай дапамогі на даму адзінокім і маламаёмным людзям.

Такіх абслугоўваецца 673 чалавекі. Але прагноз паказвае, што хутка давядзецца абслугоўваць на 20% неабароненых людзей больш.

***Павел МАКЛЮК.***

МАЛАДЗЁЖНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

# Гайдынг – гэта прыгожая гульня. Нават і для дарослых

*МАЛАДЗЕЧНА. На пачатку 90–х за нялёгкую справу стварэння арганізацыі гайдаў узялася ў горадзе загадчыца інфармацыйна–метадычнага аддзела Мінскага абласнога цэнтра дзіцячай творчасці Жанна Ангерчык. Пра сваіх цяперашніх дзяўчынак–гайдаў, іхнія справы яна расказвае толькі з захапленнем.*

– Гайда – гэта правадніца, тая, хто вядзе наперад, – гаворыць Жанна. – Іх прызначэнне ў тым, каб ісці наперад, шмат ведаць і вучыць тых, хто побач, дапамагаць ім. А яшчэ – невыкараняльны аптымізм: якое б складанае ні было жыццё, заўсёды варта шукаць тое, што палепшыць яго.



*Згадзіцеся, камісар гайдаў – гэта, у першую чаргу, прыемная жанчына.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Методыка гайдынгу нарадзілася ў Англіі яшчэ ў 1910 годзе. Аўтарытэт ёю заваяваны трывалы, але ў Маладзечне давялося пачынаць з нуля; ствараць дзіцячае грамадскае аб'яднанне "Асацыяцыя беларускіх гайдаў" Ж. Ангерчык пачала па прыкладзе еўрапейскіх і іншых краін свету.

Наогул, гэта самая масавая жаночая грамадская арганізацыя ў свеце. Цяпер налічваецца больш за 10 мільёнаў гайдаў у 136 краінах. У Беларусі гэта добраахвотная непалітычная арганізацыя для дзяўчат і маладых жанчын: ад 6 год да 10 – "птушачка", ад 10 да 14 – "гайда", пасля 14 – "старэйшая гайда", пасля 16 – "лідэр". Уступіць у арганізацыю мае права любая дзяўчынка, якая, па–сутнасці, праходзіць курс навучання лідэрству. Далей ідзе стварэнне свайго атрада і работа з ім па спецыяльнай схеме.

У арганізацыі з дзяўчатамі абмяркоўваюць праблемы, актуальныя для многіх: захаванне здароўя свайго і блізкіх, сексуальная адукаванасць і выхаванне, веды і ахова праваў дзіцяці і жанчыны, адаптацыя ў нашым жыцці дзяцей са спецыяльнымі патрэбамі і тых, што выхоўваюцца ў школах–інтэрнатах, і г. д. Спектр дзейнасці, прыкладання намаганняў, як відаць, адкрывае шырокае поле дзейнасці для гайдаў.

Дэвіз гайдаў: «Сумленна абяцаю служыць сваёй краіне, богу (калі дзяўчынка верніца) ці вышэйшым духоўным каштоўнасцям (калі ў бога не верыць), імкнуцца да вышэйшых духоўных ідэалаў, дапамагаць іншым людзям, выконваць законы гайдаў».



*Нават цяжка сказаць: ці то гайды на адпачынку, ці то падчас заняткаў?*



*Прадстаўніцы радзімы гайдаў – дзяўчаты з Англіі, якія рэгулярна наведваюць Маладзечна.*

ФОТА З АРХІВАЎ ЖАННЫ АНГЕРЧЫК.

Гайды – не рэлігійная арганізацыя, але яны вельмі паважаюць і сваіх верніц–гайдачак і ў некаторых пытаннях абапіраюцца на прынцыпы хрысціянскіх запаведзяў.

Пасля размоў з Жаннай Ангерчык і з дзяўчатамі добра відаць, што справа гэтая цікавая і карысная. Якія бацькі не мараць, каб іх дзеці былі здаровыя, прыгожыя і душой, і целам і занялі дастойнае месца ў грамадстве. Асабліва гэта тычыцца тых сем'яў, дзе падрастаюць будучыя захавальніцы ачага. Часта бацькам нестае часу або адукаванасці ці нават смеласці, каб пагутарыць са сваімі дачушкамі. А ў Маладзечне дзяўчатам ёсць куды пайсці, дзе іх выслухаюць, падтрымаюць, параяць, дзе навучаць высока трымаць галаву і быць дастойнымі чалавечай павагі.

Школьніцы **Таня Тамашэвіч і Саша Камыніна** ў гайдах ужо два гады. Яны расказалі, што за гэты час спасцігі шмат новага, цікавага, сталі ўпэўненыя ў сабе і іншымі вачыма паглядзелі на сваякоў і блізкіх, на іх заўвагі і, увогуле, на ўвесь свет. Дзяўчаты знайшлі новых сяброў, атрымалі магчымасць самаразвівацца, прыносіць карысць людзям, гораду. Яны, прыкладам, былі ў ліку тых, хто садзіў ля 6-га мікрараёна дрэвы ў будучым парку, бралі дзяўчаты ўдзел у многіх гарадскіх урачыстасцях.

Гайды – сусветная арганізацыя, яны абменьваюцца досведам і запрашаюць адзін аднаго ў госці, каб разам паразважаць пра будучае жыццё. Штогод 22 лютага гайды ўсяго свету адзначаюць сваё свята – Дзень разважанняў. У гэты дзень гайды і скаўты збіраюцца разам, каб успомніць заснавальнікаў руху, падвесці вынікі сваёй работы, адчуць падтрымку сяброў.

Штолета арганізуюцца адукацыйна–аздараўленчыя летнікі, у якія ўваходзяць самыя лепшыя гайды. Сёлета такі летнік будзе каля Маладзечна. Падрыхтаваны цікавы план яго правядзення. У прыватнасці, абумоўленая гадзіна пад"ёму. На пытанне, калі б яны хацелі ад раніцы прачынацца, дзяўчаты дружна абралі 11.00. Іхні камісар толькі падзякавала:

– Ведаеце, я таксама не люблю рана падымацца...

Лідэрам (іх можна параўнаць з піянерважатымі) трэба будзе сфарміраваць ў дзяўчынак здаровыя рэпрадуктыўныя ўстаноўкі і арыентацыі, абапіраючыся на маральныя традыцыі (вернасць, адданасць сям'і).

Шкада, што не ўсе лідэры гайдаў маюць неабходную літаратуру, дапаможнікі. Адна з галоўных прычын – адсутнасць рэгіянальнага офіса. Гэта самае гарачае пытанне для рэгіянальнага камісара. І адначасова – гэта магчымасць каму–небудзь паклапаціцца пра дзяцей, дзіцячы рух на справе, а не ў справаздачах.

Гайдаўскія атрады размясціліся ў маладзечанскай СШ №7 – там займаюцца каля 30 чалавек. Адзін атрад (7 чалавек) ёсць у беларускай гімназіі, у СШ №9 – 20 чалавек, ў школе–інтэрнаце №1 – 8 дзяўчат, займаюцца, натуральна, дзяўчаты і ў Мінскім абласным цэнтры дзіцячай творчасці – 35.

Іх вучаць не толькі рукадзеллю, кулінарыі, весці і складаць сямейны бюджэт, але даюць веды ў вобласці псіхалогіі, медыцыны, сексалогіі, вучаць будаваць ўзаемаадносіны двух полаў.

– Гайдынг – гэта прыгожая гульня, дзе бяруць удзел і дарослыя. Тут і форменнае адзенне, значкі, сімвалы. Калі пазбавіць гайдынг гэтага, то з захапляльнай гульні ён ператворыцца ў сур'ёзную і сумную справу. А гэта ўжо не для дзяцей, – упэўненая Жанна.

***Анжаліка АРАБІНКА.***

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка



**Па гарызанталях:** 3. Кіраўнік барацьбы за Савецкую ўладу ў Сярэдняй Азіі. 5. Сталіца краіны ў Заходняй Афрыцы. 9. Левы прыток Волгі. 10. Паўднёвы фрукт. 11. Роў, траншэя. 13. Прыток Енісея. 14. Насякомае. 15. Індывідуальная "аднаразовая" зброя.

**Па вертыкалях:** 1. Дробная рыба сямейства сельдзевых. 2. Доўгі складаны нож у Іспаніі. 4. Пустыня ў Паўднёвай Амерыцы. 6. Штат у ЗША. 7. Французскі графік і жывапісец. 8. Неспакойны перазвон. 12. Марскі порт у Нікалаеўскай вобласці. 13. Гарадскі пасёлак у Казахстане.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 28.*

**Па гарызанталях:** 1. Кулак. 6. Сапёр. 9. Лексіка. 10. Вахта. 11. Баран. 12. Салітэр. 16. Трагік. 19. Мардва. 22. Акот. 24. Біта. 25. Азон. 26. Пажар. 27. Тара. 28. Ар. 29. Па. 30. Жанр. 31. Гамак. 33. Танк. 34. Абат. 36. Кама. 38. Капрал. 41. Варвар. 44. Лакатар. 47. Норма. 48. Шалік. 49. Сапрана. 50. Тракт. 5. Лінза.

**Па вертыкалях:** 1. Кювет. 2. Лухта. 3. Класік. 4. Укол. 5. Ліст. 6. Сабрат. 7. Парад. 8. Ронда. 13. Акоп. 14. Іл. 15. Эмір. 17. Развага. 18. Ганарар. 20. Рататар. 21. Веранда. 23. Тамат. 24. Барак. 31 Гала. 32. Кава. 35. Баласт. 37. Маршал. 38. Канат. 39. Пурга. 40. Ма. 42. Валун. 43. Рыкша. 45. Капа. 46. Трап.

ІМЯ

## Узыходжанне Аніты Цой

***Узыходжанне – па-іншым нельга назваць імклівы "ўзлёт" артысткі Аніты Цой на музычным алімпе. Асабліва папулярныя сталі яе песні "Палёт" і "Мама".***

– Не апошнюю ролю адыграў тут мой муж Сяргей Пятровіч, – расказвае яна. – Ён чалавек з уплывам, адзін з лепшых іміджмэйкераў Расіі, да яго думак прыслухоўваюцца. Хаця ён мяне не прапіхвае. Проста я прысвячаю яму свае песні.

**– Чым яшчэ вы займаецеся, акрамя выступленняў?**

– Арганізую дзіцячы культурны цэнтр. Дзеці там будуць вучыцца танцаваць, пець, маляваць. Я хачу, каб туды хадзіў і мой маленькі сын. Думаю, што цэнтр дапаможа хлопчыкам і дзяўчынкам стаць усебаковаразвітымі людзьмі.

**– Як пачынаўся ваш творчы шлях?**

– Напэўна, з імітавання. Мне вельмі спадабалася Мірэй Мацье, а ў мамы была калекцыя французскіх песень, і я іх вучыла на слых. Потым пачала складаць сама. Калі не магла падабраць французскае слова – дадавала рускае.

**– Вы адчуваеце сябе рускай спявачкай?**

– Так, хаця мая радня раскіданая ва ўсіх частках Карэі. Тут апынулася таму, што дзед калісьці ўцёк у СССР – будаваць камунізм.

**– Ці хацелі б выступіць у Карэі?**

– Найперш – сустрэцца з роднымі і выказаць свае пачуцці ў песнях.

**– Як вы ставіцеся да жыцця?**

– Я аптымістка, хаця песні атрымліваюцца сумныя. Спадзяюся, ў будучым будуць і вясёлыя.

**– Што б вы пажадалі чытачам «Рэгіянальнай газеты»?**

– Найперш – не вешаць нос, быць аптымістамі. У жыцці заўсёды можна знайсці выйсце з любога, нават самага складанага становішча.

*Падрыхтаваў Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Не капай іншаму яму

У недалёкай ад мядзельскага нямецкага гарнізона вёсцы быў староста, які верна служыў акупантам: паведамляў пра наведванні партызан, складаў спісы моладзі для вывазу ў Германію.

Задумаліся партызаны: як абясшкодзіць такога чалавека? Прыдумалі.

Аднойчы ў дом, дзе жыў той староста, заявіўся партызан (сам староста быў у гарнізоне, заставалася яго дарослая дачка). Партызан пасядзеў за сталом, зрабіў выгляд, што стаміўся, а потым развітаўся і пайшоў далей. Пры гэтым "забыўся" на лаўцы сумку. Дачка старасты адкрыла сумку, там былі лістоўкі, складзены ад рукі план мясцовасці ды іншыя паперы. Дзяўчына не стала даганяць партызана, а паспяшалася ў гарнізон. Немцы дэталёва вывучылі змесціва сумкі і знайшлі даведку, што гэты самы староста з'яўляецца партызанскім сувязным, і ў яго нельга браць маёмасць.

Такая «даведка» спрацавала: немцы арыштавалі старасту і знішчылі.

## На выпадак дажджу

Як і ўчора, ліў дождж. Не магло быць ніякай гутаркі пра ўборку азімых. Старшыня калгаса Віталь Паўлавіч раз–пораз паглядваў у акно і перажываў, што камбайны прастойваюць.

На стале залівіста зазваніў тэлефон. У трубцы прагучала просьба з упраўлення сельскай гаспадаркі перадаць звесткі пра ўборку за папярэдні дзень: ураджайнасць, колькасць зжатых гектараў. Кіраўнік гаспадаркі сказаў:

– Вы, часам, не жартуеце? Учора ж ні гадзіны не было без дажджу.

У трубцы пачулася, што заканчваюць складаць зводку і панясуць у райком.

– Скажыце, ці перадалі звесткі з іншых гаспадарак?

– Перадалі ўсе. Скарысталі гадзіну, паўгадзіны для жніва.

Старшыня папрасіў не адносіць зводку высокаму начальству ў раёне, праз хвілін дзесяць сам пазвоніць. А потым паклікаў галоўнага аграномa:

– Іванаўна, колькі ў "загашніку" (у запасе) у нас цэнтнераў? – спытаў старшыня. Галоўны спецыяліст назвала лічбу. Старшыня прапанаваў на некаторую колькасць зменшыць запас, а потым зняў трубку – прадыктаваў ход жніва за папярэдні дзень.

Кажу Віталю Паўлавічу:

– Якая ўборка была ўчора, адкуль запас, ці "загашнік"?

– Паспрабуй не перадаць звесткі – прымчацца з райцэнтра правершчыкі, дарадцы, кантралёры. Апраўдвайся перад імі. А запас ёсць у кожнага старшыні гаспадаркі. На выпадак такога надвор'я, як учора ды сёння.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

ЦІКАВАЕ ПОБАЧ

## Блакітнае сонца



Звыклы нам Месяц бывае блакітны, а не менш прывычнае Сонца - зялёнае і нават таксама блакітнае.

Так, у час пясчаных бураў у пустыні Сонца мае зялёны колер, а неба прымае жаўтаватую і нават чырванаватую афарбоўку з-за дробных пясчынак, што знаходзяцца ў паветры. Блакітным бачылі Сонца пры ўзыходзе жыхары краін Заходняй Еўропы 26-28 верасня 1951 года, калі па Еўропе распаўсюдзіўся дым ад вялізных лясных пажараў у Канадзе, перанесены паветранымі плынямі праз Атлантыку.

Блакітны ўзыходзячы Месяц назіралі на Гавайскіх астравах у 1985 годзе пасля вывяржэння вулкана Мауна-Лоа.

А ў 1883 годзе жыхары Заходняй Еўропы бачылі Сонца пры яго ўзыходзе і захадзе насычана-зялёным. Па меры падымання Сонца над даляглядам, яго колер станавіўся ярка-блакітным і праз некаторы час прымаў звычайную афарбоўку. Гэта звязана з засмечваннем атмасферы Зямлі пасля вывяржэння вулкана Кракатау. Цікава, што блакітнае сонца можна ўбачыць і ўдзень, калі паглядзець на яго праз клубы пары, якая выходзіць з паравога катла ў першыя моманты, пакуль кропелькі яшчэ дастаткова дробныя.

*Іван СЯРГЕЙ.*

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# Гэты чалавек – адзіны ў Маладзечне



*Іван Сяргей падчас паездкі да нямецкіх калег–астраномаў.*

ФОТА З АРХІВА ІВАНА СЯРГЕЯ.

***МАЛАДЗЕЧНА. Ідучы на сустрэчу з адзіным у горадзе астраномам–аматарам, чакалі ўбачыць дзядулю–астролага, але пазнаёміліся з маладым хлопцам. Іван Сяргей даўно захапіўся астраноміяй, і яго дзіцячая цікаўнасць з цягам часу вырасла ў справу ўсяго жыцця.***

**– Раскажы крыху пра сябе.**

– Скончыў СШ школу №10, потым ПТВ–87 па прафесіі слесар–інструментальшчык, паўтара года служыў у арміі. Пасля дэмабілізацыі ўладкаваўся на "Электрамодуль", а год таму паступіў у БДПА на механіка–тэхналагічны факультэт. Астраноміяй па–сапраўдным захапіўся ў 1988 годзе. Прачытаў у часопісе "Земля и вселенная" пра ўсесаюзны конкурс, які праводзіўся ў Калузе, паслаў туды праект заркалёта. Атрымаў дыплом 3–й ступені і каштоўны падарунак.

**– Ты быў у Калузе?**

– Так. Менавіта там пазнаёміўся з маім будучым настаўнікам Іванам Брухановым, кіраўніком гуртка "Бетэльгейзе" (Бетэльгейзе – яркая пераменная зорка ў сузор'і Арыёна). Знаходзіцца гурток у Мінску на Рэспубліканскай абласной станцыі тэхнічнай творчасці навучэнцаў.

**– Гурток – гэта значыць, аматары?**

– З той прычыны, што астраномія – даследчая навука і эканамічнага інтарэсу сабой не ўяўляе, гэта проста энтузіясты. Я рабіў запыт у Міністэрства адукацыі аб адкрыцці астранамічнага факультэта, але адтуль прыйшоў адказ, што рэспубліка ў такіх спецыялістах не мае патрэбы. Хаця ў Расіі, Літве, на Украіне астранамічныя даследаванні падтрымлівае дзяржава.

**– Ты спрабаваў шукаць паплечнікаў?**

– Зразумела, "Рэгіянальная газета" некалькі разоў публікавала мае аб'явы, але адгукнуўся толькі адзін чалавек з Вілейкі. А ў Маладзечне, падобна на тое, я адзіны назіральнік. У Мінску на станцыі тэхнічнай творчасці вырашылі сабрацца і стварыць сваю арганізацыю, але ўсё ўпёрлася ў грошы.

**– Як вы абменьваецеся інфармацыяй?**

– У Беларусі створаная сетка індывідуальных назіральнікаў за метэорамі. Схема такая: я выставіў праграму назірання за метэорнымі патокамі, назіральнікі прысылаюць мне справаздачы, я ўсю інфармацыю апрацоўваю, аналізую, даю рэцэнзію і высылаю на адрас Міжнароднай метэорнай арганізацыі ў Патсдаме, а таксама на Кіраўскую метэорную станцыю і ў Сімферопаль, у Крымскую метэорную групу. Адтуль мне ідзе інфармацыя пра іх назіранні, вынікі, метадычныя рэкамендацыі, як лепш арганізаваць назіранні. Магчыма, цяпер выйдзем на ўзровень камп'ютэрных праграм і ў Internet. На гэты момант я – адзіны ў Беларусі каардынатар па назіраннях за метэорамі.

**– Спорт – гэта рух, вучоба – гэта веды, а назіранне за метэорамі – гэта...**

– Мне гэта цікава. Неба – гэта лабараторыя над галавой. Сябры мяне слаба разумеюць, думаюць, што гэта несур'ёзная справа, накшталт калекцыяніравання марак ці значкоў. А для мяне – маральнае, духоўнае задавальненне. Фарміруецца светапогляд, душа пастаянна шукае нешта адкрыць, знайсці, убачыць...

**– Бога?**

– Рэлігію і бога, магчыма, нам "падкінула" больш развітая цывілізацыя, каб чалавецтва не "збілася з дарогі", не знішчыла сябе. Магчыма, бог – гэта настолькі вышэйшы розум, энергетычная матэрыя, якая разумна мысліць, вышэй за якую нікога няма.

**– Існуюць два лагеры: адныя гавораць, што сусвет замкнуты, іншыя – бясконцы. А як думаеш ты?**

– Я не ведаю. Але сусвет павінны быць замкнуты. Усяму ёсць пачатак і канец. Магчыма, што ёсць незлічоная колькасць сусветаў, звязаных паміж сабой тунэлямі. З аднаго сусвету можна трапіць у іншы, але там, дапусцім, іншыя фізічныя параметры, вымярэнні. Як матрошкі, укладзеныя адна ў адну, а на парадак вышэй – іншы свет.

**– Іншы свет?**

– Калі ўзяць вялікае поле і засеяць яго, не можа быць, каб ўзышоў толькі адзін каласок. Не веру, што мы адныя ў сусвеце.

**– Праўда, што можна ўбачыць зоркі ў калодзежы?**

– Калі глыбокі калодзеж ці шахта, можна. Пры захадзе фон неба цьмянее, ствараецца кантраст, і яркія зоркі будзе відаць.

*Павел ІВАНОЎ, Аляксандр ГУЛЕЦКІ.*

*Заканчэнне будзе.*

### ГАРАСКОП 19 – 25 ЛІПЕНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)** Магчымая напружанасць з–за асабістых праблемаў. У многіх няўдачах адмоўную ролю могуць адыграць сябры.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)** Ускладненні ўнутрысямейных стасункаў. Прычына – вы самі або вашыя завышаныя патрабаванні да членаў сям'і.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)** Складана вылучыць галоўнае, асноўнае са шчыльнага інфармацыйнага фону. У сераду і чацвер парады з боку толькі перашкодзяць прыняццю правільных рашэнняў.

**РАК (22.06–23.07)** Не пераацаніце свае магчымасці, калі возьмецеся за сур'ёзныя справы. Не рэкамендуецца заключэнне дагавораў.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)** Падрыхтуйцеся да неаб'ектыўных абвінавачванняў з боку дзелавых партнёраў, сямейнай палавіны. Перачакайце ўсё гэта, у канфлікт лепш не ўцягвайцеся.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)** Будзьце больш асцярожныя па месцы работы, калі яна вам патрэбная. Памылкі могуць скарыстаць непрыяцелі.

**ШАЛІ (24.09–23.10)** Асноўная нагрузка прыйдзецца на сярэдзіну тыдня. Не варта брацца за здзяйсненне фінансавых праектаў.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)** Любыя пытані, якія тычацца нерухомасці, на гэтым тыдні разглядаць не рэкамендуецца, калі не хочаце быць падманутыя.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)** Залішняя даверлівасць можа істотна пашкодзіць вам у сярэдзіне тыдня. Людзі з блізкага асяроддзя паспрабуюць зваліць на вас свае ж памылкі.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)** Самай вялікай перашкодай можа быць уласны песімізм, хаця і абставіны будуць складвацца не лепшым чынам.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)** Пазбягайце радыкальнасці ва ўчынках, што можа вельмі негатыўна адлюстравацца на дзелавых адносінах ці ўзаемапаразуменні ў сям'і.

**РЫБЫ (20.02–20.03)** Не будзьце празмерна даверлівыя, людзі могуць гэта выкарыстаць у сваіх мэтах. Найбольш рызыкоўныя дні – серада і чацвер.

